# Свабоду палітвязням!

## Бюлетэнь прысвечаны беларускім палітвязням (Palitviazni.info)

### Францкевіч выйшаў на волю



**«Паднялі ў 5.00, а не як звычайна пад’ём у калёніі ў 6.00. За паўгадзіны афармілі ўсе дакумэнты і ў 5.30 выпусьцілі за браму турмы. Хутчэй за ўсе гэта зроблена раньней, каб я не пасьпеў разьвітацца з сябрамі па калёніі», – мяркуе Аляксандар Францкевіч.**

Палітвязень распавёў, што ўвесь час адчуваў ціск, але ціснулі і на звычайных зьняволеных:

*«Калі чалавек моцны, неважна па якіх прычынах ён сядзіць, то ён вытрымае”.*

Апошнія пяць месяцаў **Аляксандар Францкевіч** правёў у ПКТ. Ведае пра тое, што адбываецца ў краіне па прэсе і лістах. Тое, што адбываецца сёньня ў Беларусі назваў “палітычным тэрорам”.

*«Мае погляды не зьмяніліся, а толькі ўмацаваліся»,* – адзначыў палітвязень.

Перад зьмяшчэньнем ў ПКТ некалькі разоў бачыўся з Эдурдам Лобавым, ведае, што пайшоў вучыцца на сваршчыка.

Палітвязень распавёў, што ў калёніі вельмі дрэннае харчаваньне.

*«Пражыць можна толькі з таго, што дасылаюць сваякі. З гародніны, якую давалі ў турме, я бачыў толькі моркву».*

У планах Аляксандра аднавіцца на фірме, дзе працаваў да арышту. Аляксандар праграміст.

*«Да кампутара не дакранаўся 3 гады, але калі бачыў яго ў турэмшчыкаў, ажно рукі часаліся».*

Цяпер пляную ехаць у Наваполацк, дзе яму прызначылі нагляд, але паспрабуе перавесьціся ў Менск, каб мець магчымасьць працаваць у кампутарнай фірме.

Аляксандар Францкевіч вельмі дзякаваў усім за падтрымку і лісты, якія яму дасылалі ўвесь час. Калі ён выйшаў, то нёс вялікі пакунак з лістамі.

Тры гады таму, у верасьні 2010 году, яго арыштавалі па справе анархістаў. А 24 траўня 2011 году Заводзкі суд прысудзіў Аляксандру Францкевічу тры гады пазбаўленьня волі.

***svaboda.org***

### Андрэя Гайдукова перавялі ў магілёўскую калонію

**Пакараны годам і 6 месяцамі зняволення 23-гадовы грамадскі актывіст, былы працоўны наваполацкага “Нафтана” Андрэй Гайдукоў пераведзены з Віцебскага следчага ізалятара ў Магілёўскую калонію №19.**

Па словах яго сястры **Марыі**, пра гэта даведаліся родныя зняволенага, калі прынеслі ў следчы ізалятар перадачу:

*- У нас родныя ў Віцебску пайшлі перадаваць яму перадачу, а ім сказалі, што ён – у Магілёве. Афіцыйна ніхто нічога не паведамляў ні бацькам, ні адвакату. Мы думалі, што ён нейкі час яшчэ будзе ў Віцебску, а аказалася, што яго вельмі хуценька перавялі ў Магілёў.*

Андрэй Гайдукоў быў прызнаны вінаватым у спробе ўсталяваць супрацу з ЦВУ. 27 жніўня Вярхоўны Суд Беларусі разгледзеў яго скаргу і пакінуў прысуд у сіле. Хоць абодва суды праходзілі ў закрытым рэжыме, аднак у дзяржаўнай прэсе былі надрукаваны некаторыя матэрыялы гэтай справы.

Па меркаванні праваабаронцаў, яны паказалі не столькі вінаватасць Гайдукова, колькі адсутнасць складу крымінальнага злачынства ў яго дзеяннях.

***racyja.com***

### Палітвязень Аўтуховіч ускрыў у турме жывот




**Мікалай Аўтуховіч пайшоў на крайнія меры, пратэстуючы супраць незаконных спагнанняў.**

Прадпрымальнік з Ваўкавыска, які адбывае прысуд у гродзенскай турме №1, нанёс сабе цяжкія цялесныя пашкоджанні – ускрыў сабе лязом жывот.

Пра гэта са спасылкай на ўласную крыніцу паведамляе сайт праваабарончай установы «Платформ інавейшн».

Два гады запар **Мікалаю Аўтуховічу** выносяць незаконныя спагнанні менавіта ў той момант, калі ў яго павінны пагасіцца ўсе раней накладзеныя на яго пакаранні. 4 верасня 2013 года, калі ў палітвязня заставалася каля месяца да пагашэння ўсіх парушэнняў, на яго зноў было накладзенае новае спагнанне, што фактычна пазбавіла яго магчымасці атрымання пасылкі і перадачы, сустрэчы з роднымі ў аб’ёмах, якія прадстаўляюцца астатнім зняволеным.

Па непацверджанай інфармацыі, прычынай стала нібыта адсутнасць Мікалая Аўтуховіча 26 жніўня 2013 года на сваім спальным месцы пасля адбою.

Па версіі той жа крыніцы, рашэнне, прынятае палітвязнем пасля накладання спагнання тлумачыцца тым, што ён старанна сыходзіць ад любых парушэнняў, не даючы для іх ніякай падставы адміністрацыі.

*«Яму, як ваеннаму, не цяжка ўстаць раніцай да пад’ёму і своечасова легчы спаць. Ён прывык да такога рэжыму. Прывык і па пайгода ні з кім не размаўляць, кажучы ў дзень па пары дзяжурных фраз – толькі б не даваць падставы да далейшых правакацый»,* – кажа крыніца.

Такім чынам, адміністрацыя турмы імкнецца трымаць Мікалая Аўтуховіча ў статусе «злоснага парушальніка рэжыму ўтрымання». Менавіта ў дадзеным статусе яго лёгка асудзіць па арт. 411 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (Злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы, якая выконвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі) і дадаць дадатковы тэрмін, альбо прызначыць прэвентыўны нагляд пасля вызвалення.

*«Калі мэты адміністрацыі менавіта такія, то Мікалай Аўтуховіч можа яшчэ доўга не выйсці на волю. Знаходзячыся ў зняволенні даўжэй іншых палітвязняў, ён цудоўна гэта разумее і ўсведамляе, што даваць лішнюю нагоду для пакаранняў адміністрацыі турмы – занадта вялікая раскоша, і ўсяляк пазбягае гэтага. Атрыманая намі інфармацыя сведчыць пра тое, што на яго ўзмацніўся ціск»,* - лічыць «Платформ інавейшн».

Па факце інцыдэнту праваабаронцы накіравалі запыты ў гродзенскую турму №1 і Дэпартамент выканання пакаранняў МУС.

Ветэран афганскай вайны Мікалай Аўтуховіч быў асуджаны ў траўні 2010 года на пяць гадоў зняволення ва ўмовах строгага рэжыму за захоўванне пяці патронаў да паляўнічай вінтоўкі.

Праваабаронцы прызналі яго палітвязнем, асуджаным за актыўную грамадскую дзейнасць і барацьбу з карупцыяй.

***platformarb.com***

### Палітвязню Аліневічу сёння споўнілася 30 гадоў

**24 верасня анархіст-палітвязень Ігар Аліневіч святкуе - відаць, за чаем - свой 30-ы дзень нараджэння.**

*«Хачу пажадаць нявольнікам у надыходзячым годзе, насуперак абставінам, бачыць светлае і знаходзіць карыснае ў сваім становішчы. Яшчэ пажадаю родным і блізкім зняволеных больш узаемаразумення паміж сабой. Сіла - у адзінстве пачуццяў»,* - напісаў гэты ідэолаг анархісцкага руху ў сваім навагоднім звароце.

У мінулым годзе газета “Новы час” апублікавала ягоны турэмны дзённік - дакумент ашаламляльнай сілы. Ён быў напісаны ў сумнавядомай «амерыканцы» - турме КДБ. Дзённік передала маці зняволенага, Валянціна Аліневіч. З дзённіка вынікае, што планамернымі катаваннямі палітвязняў кіраваў начальнік турмы.

***nn.by***


Solidarity Fund PL




FRID
Fundacja Rozwoju
Inicjatyw Demokratycznych

## Зьміцер Дашкевіч: Я не нагнятаю абстаноўку, і мяне не правакуюць




**Зьміцер Дашкевіч, лідар "Маладога фронту" з 28 жніўня на волі. Палітвязень агучыў, што мае намер пакінуць "Малады Фронт". Але ці будзе далей займацца палітычнай ці грамадзкай дзейнасьцю? З такім пытаньнем сайт palitviazni.info зьвярнуўся да самога Зьмітра.**

**Зьміцер Дашкевіч:** *Так, канешне, я буду займацца грамадзка-палітычнай дзейнасьцю. Што да формы, то пакуль не магу канкрэтна сказаць пра гэта.*

**- Яшчэ падчас знаходжаньня ў турме ў дачыненьні да вас ўвялі прэвентыўны нагляд. Наколькі гэтыя абмежавальныя меры перашкаджаюць?**

**Зьміцер Дашкевіч:** *Форма наступная – мне забаронена выязджаць за Менскую кальцавую, мушу кожны дзень з васьмі вечара да шасьці ранку насутпнага дня знаходзіцца дома. Але ў прынцыпе пакуль што не правакуюць мяне. Я цяпер зарэгістраваны ў Заводзкім РАУСе Менску. Праўда, мне казалі, што міліцыянты могуць і па тры разы за ноч прыходзіць і правяраць. Але я ім сказаў, што калі трэці раз цягам ночы да мяне прыйдуць і будуць будзіць, то я проста ўстану і спушчу зь лесьвіцы іх і пайду зьбіраць торбу ў Баранавіцкі арыштны дом. Але пакуль што больш-менш спакойна. Я не нагнятаю абстаноўку, і мяне не правакуюць.*

**- Зьміцер, што да зьменаў ў грамадзка-палітычным жыцьці ў краіне? Ці бачыце, што нешта моцна зьмянілася?**

**Зьміцер Дашкевіч:** *З аднаго боку відавочна, што рэжым беларускі абсалютна ўжо губляе кантроль над рэальнасьцю. Калі раней яшчэ Лукашэнка можна сказаць, што нават да году 2010 імкнуўся абапірацца на электарат. То цяпер, пасьля ўсіх гэтых эканамічных абвалаў, стаў абапірацца не на грамадзкае меркаваньне, а на эканамічную мафію, што яго атачае, прарэжымных алігархаў і на сілавыя структуры. Яго ўжо не цікавіць, што думаюць людзі і таму тут можна любую ініцыятыву выказваць. Рабіць любыя ўчынкі кшталту масавая канфіскацыя сьвіней, па сто даляраў зьбіраць за выезад з краіны, што заўгодна. Бо грамадзкае меркаваньне яго зусім не цікавіць. Ну а калі казаць пра стаўленьне людзей, пра іх жаданьне пераменаў, то напэўна, нельга сказаць, што яно неяк так радыкальна зьмянілася. Узровень апатыі такі ж самы, хоць можа я і памыляюся.*

**- Верагодна, што з 2010 году зьменай стала агучваньне інфармацыі пра тое, што ў турмах, СІЗА ў дачыненьні да затрыманых ужываюцца катаваньні. Прычым не толькі ў адносінах да палітычных вязьняў, але таксама і да астаніх вязьняў. Як часта Вам прыходзілася сутыкацца з такой зьявай?**

**Зьміцер Дашкевіч:** *Я сустракаўся з такімі выпадкамі і лічу, што тут нічога новага, калі там зьбіваюць людзей, то гэта было і пяць і дзесяць гадоў таму назад. Калі людзі сядзяць у турме і харчуюцца ролтанам, а ядуць яго футлярамі ад зубных шчотак. Я лічу, што гэта катаваньні, гэта зьдзек над асобаю, хаця Дэпартамент выканаванья пакараньняў піша адпіскі, што ўсё гэта нармальна, і ўсё гэта ў межах закону. Проста само па сабе стаўленьне да людзей у месцах пазбаўленьня волі яно цікавіць толькі тых, хто знаходзіцца ў гэтых месцах, або іх родных. А астатнія зболышага абыякавыя да гэтага.*

**- Але ці гэта прыймальная сытуацыя? З аднаго боку карумпаваны чыноўнік, а зь іншага чалавек, якога кінулі за краты за іншыя погляды.**

**Зьміцер Дашкевіч:** *За мною йшло дзясяткі, ну няхай там сотні чалавек. Гэта ж тыя людзі, якія падтрымлівалі мяне на волі, яны ж падтрымлівалі мяне і ў зьняволеньні.*

***(Цалкам інтэрв'ю на сайце palitviazni.info).***

## Трэці дзень народзінаў палітвязень адзначыць за кратамі



**Чарговы, ужо трэці дзень народзінаў 25 верасьня ў Бабруйскай калёніі сустрэне Алесь Бяляцкі. Кіраўнік праваабарончага цэнтру "Вясна" асуджаны на 4,5 гады зьняволеньня нібыта за ўтойваньне прыбыткаў з-за мяжы. Сваёй віны Алесь Бяляцкі не прызнаў і заявіў суду, што перадаваў усе атрыманыя грошы на дапамогу палітвязьням. Міжнародная супольнасьць прызнала Алеся Бяляцкага вязьнем сумленьня. Жонка палітвязьня Натальля Пінчук распавядае palitviazni.info пра тое, як пачуваецца праваабаронца, які адбыў ў зьняволеньні ўжо болей за 2 гады.**

**Натальля Пінчук:** *Асаблівых зьвестак няма ад Алеся. Ва ўсякім разе ад яго даходзяць лісты. Але асаблівa ён не піша пра тое, што там зь ім адбываецца. Не акцэнтуецца над гэтым, пазначае ў лістах, што ў яго ўсё па-старому. Ён надалей працуе на гэтай швейнай вытворчасьці, пакуе нейкія матэрыялы. А ў астанім ўсё ў яго бязь зьменаў. Што да дня яго народзінаў, то ўжо трэці год ён адзначае яго за кратамі. Летась быў юбілейны – пяьцдзесят гадоў. Зараз яму ўжо споўніцца 51 год. Што да адзначаэныя – то якое тут можа быць адзначэньне? Але я загадзя накіравала яму віншаваньне. Спадзяюся, што да яго дня народзінаў паштоўка патрапіць, прапусьцяць яе і ён прачытае своечасова.*

**- У сталіцы Польшчы, Варшаве, літаральна ў цэнтры гораду на адным з мастоў невядомы мастак стварыў своеасаблівую галерэю з малюнкамі вязьняў сумленьня ў розных краінах сьвету з заклікам напісаць ліст палітвязьням. Сярод шматлікіх асобаў таксама і постаць Алеся Бяляцкага. Якія праявы салідарнасьці паступаюць на адрас Алеся Бяляцкага?**

**Натальля Пінчук:** *Гэта як раз найбольш кранальная праява салідарнасьці, я лічу. Бо гэта не на ўзроўні нейкага міністэрства, ці афіцыйнае ўстановы, ці ўладнае стурктуры, або нейкае грамадскай нават арганізацыі, якая займаецца правамі чалавека, хоць і ім таксама хацела б перадаць словы падзякі. Важна тое, што людзі ведаюць пра сытуацыю ў Беларусі, ведаюць пра Алеся і такім чынам выказваюць сваю падтрымку. А гэты малюнак сапраўды - вельмі кранальна. Думаю, што калі Алесь даведаецца пра гэта, яму будзе вельмі прыемна.*

**- Алесь Бяляцкі намінаваны на прэмію Вацлава Гавэла па правах чалавека. Як Вы думаеце, якія шанцы беларускага парваабаронцы на атрыманьне гэтай прэміі?**

**Натальля Пінчук:** *Што тычыцца гэтай прэміі, то добра, што ёсьць яшчэ адна магчымасьць для праявы салідарнасьці. Уганараваньне прэміі адбудзецца 30 верасьня. Зразумела, што я пакуль не ведаю парабязнасьці і акалічнасьці вакол гэтай справы. Але важна, што сытуацыя ў Беларусі не застаецца па-за ўвагай шматлікіх і структураў і асобаў.*

**- Спадарыня Натальля, грамадскасьць скалыхнула навіна аб сытуацыі з Мікалаем Аўтуховічам, з тым, што ён ўскрыў сабе жывот. Як думаеце, ці шмат зьвестак з турмы да нас проста не даходзяць? Як шмат мы не ведаем пра сапраўдную сытуацыю, пра стан вязьняў сумленьня?**

**Натальля Пінчук:** *Сапраўды, мы шмат чаго проста не ведаем. Гэтыя ўстановы досыць зачыненыя. Інфармацыя паступае дазавана. А такія крайнія праявы, адчайныя крокі паказваюць наколькі цяжкая і часам невыносная сытуацыя там за кратамі.*

***(Цалкам інтэрв'ю на сайце palitviazni.info).***

## Андрэя Пачобута вызвалілі ад пакарання



**23 верасня суд Ленінскага раёна Гродна перагледаў справу журналіста Андрэя Пачобута, асуджанага за «паклёп на прэзідэнта». Было прынята рашэнне вызваліць журналіста ад пакарання.**

Гаворка ідзе пра рашэнне суддзі **Віталя Ляцко** ад 5 ліпеня 2011 г., які прызнаў Пачобута вінаватым у парушэнні ч. 1 арт. 367 Крымінальнага кодэкса і пакараў трыма гадамі пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на два гады. 20 верасня скончыўся перыяд адтэрміноўкі пакарання.

*- Безумоўна, я задаволены з таго, што цяпер змагу выязджаць за мяжу і не маю ніякіх абавязкаў стала адзначацца ў міліцыі. Разам з тым, я па-ранейшаму лічу прысуд у дачыненні да сябе цалкам незаконным, — зазначыў журналіст у гутарцы з прэс-службай ГА "БАЖ". - Цяпер мне неабходна зрабіць візу, і я адразу ж планую наведаць рэдакцыю "Gazety Wyborczej" у Варшаве.*

Паводле абвінавачання, на працягу 2010-2011 г.г. Андрэй Пачобут "паклёпнічаў" на А. Лукашэнку на старонках "**Gazety Wyborczej**", сайта **"Белорусский партизан"** і свайго блогу **poczobut.livejournal.com**. Аналізавалі «крымінальныя» тэксты Пачобута выкладчык-філолаг Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта **Аляксей Нікіценка** і двое супрацоўнікаў аддзела ідэалогіі Гродзенскага аблвыканкама - **Павел Скрабко** (загадчык) і **Віктар Жалезняковіч** (адказны за працу са СМІ).

А. Пачобута вызвалілі ў зале суда 5 ліпеня, але пад падпіску аб нявыездзе (з 6 красавіка 2011 г. журналіста ўтрымлівалі ў следчым ізалятары Гродзенскай турмы №1). Пачобут не прызнаў сябе вінаватым і паспрабаваў абскардзіць рашэнне суда. 20 верасня 2011 г. Гродзенскі абласны суд адхіліў касацыйную скаргу журналіста, і рашэнне набыло законную сілу.

Яшчэ адну крымінальную справу (паўторны паклёп на кіраўніка дзяржавы, ч. 2 арт. 367 КК РБ) завялі на Пачобута ўлетку 2012 г. У сакавіку 2013 г. справу спынілі ў сувязі з адсутнасцю ў дзеяннях журналіста складу злачынства.

***baj.by***